# Права



УДК 34(476)(091)(06)

*Д. С. ЖУК*

## ТЭНДЭНЦЫІ Ў РАЗВІЦЦІ ПАЛІТЫЧНАЙ І ПРАВАВОЙ ДУМКІ БЕЛАРУСІ Ў XVI ст.

Последовательно исследуются тенденции в развитии политической и правовой мысли Беларуси в XVI в. Их значимость объясняется возможностью изучения правовых и политических традиций белорусского народа, определением его уровня интеллектуальной зрелости, качества мировоззрения и самосознания. Рассматриваются такие источники политической и правовой мысли Беларуси данного периода, как Статуты Великого Княжества Литовского 1529, 1566, 1588 гг., а также правовые и политические идеи прогрессивных представителей XVI в.: Франциска Скорины, Льва Сапеги, Андрея Волана, Остафия Воловича, Николая Радзивилла Черного. Особое внимание автором уделено реформационному и гуманистическому движениям, являющимся проявлениями эпохи Возрождения. Сделанные автором выводы подкрепляются ссылками на авторитетных исследователей истории политической и правовой мысли Беларуси. Выделяется шесть тенденций политической и правовой мысли Беларуси XVI в.

***Ключевые слова:*** политическая и правовая мысль; тенденция; политические и правовые идеи; влияние; развитие; правовое государство.

Consistently are investigated tendencies in development of political and legal thought of Belarus in the XVI century. In the article the author emphasizes the importance of such research w ith possibility of studying of legal and political traditions of the Belarusian people, definition of its level of intellectual maturity, quality of outlook and consciousness. Such sources of political and legal thought of Belarus of this period as Statutes of Grand Duchy of Lithuania 1529, 1566, 1588 and also legal and political ideas of progressive representatives of the XVI century are considered: Frantsisk Skorina, Lev Sapega, Andrey Volan, Ostafy Volovich, Nikolay Radzivill Chyorny. In this article the author pays special attention to such Renaissance manifestations, as reformation and humanistic movements. The conclusions drawn by the author are supported with links to authoritative researchers of history of political and legal thought of Belarus. At the end of the article six tendencies of political and legal thought of Belarus of the XVI century are allocated by the author.

***Key words:*** political and legal thought; tendency; political and legal ideas; influence; development; constitutional state.

Палітычная і прававая думка дзяржавы з'яўляецца ўвасабленнем узроўню інтэлектуальнай сталасці яе грамадства, якасці светапогляду і свядомасці яе насельніцтва, дапамагае прасачыць станаўленне і развіццё палітычных і прававых традыцый народа. Беларуская нацыянальная палітычная і прававая думка прайшла вялізны шлях свайго станаўлення, а час яе развіцця ў XVI ст. стаў адным з самых пладавітых у яе гісторыі. Менавіта XVI ст. стала найбольш паспяховым у гісторыі нашай дзяржавы і яе культуры.

Найбольшы ўплыў на развіццё палітычнай і прававой думкі Беларусі XVI ст. аказаў той факт, што яна ўзбагачалася тымі прагрэсіўнымі ідэямі, якія несла ў сабе эпоха Адраджэння.

Агульнавядома, што Адраджэнне ў канкрэтна-гістарычным значэнні прадстаўляе сабой эпоху ў развіцці духоўнай культуры Еўропы ў пераходны перыяд ад Сярэднявечча да Новага часу (XIV – першая палова XVII ст.), якая характарызавалася ўздымам свецкай навукі і мастацтва, станаўленнем нацыянальнай мовы, літаратуры і нацыянальнай самасвядомасці, гуманістычным светапоглядам[1].

Шмат навукоўцаў да асаблівасцей эпохі Адраджэння ў Беларусі адносяць: крытыку сярэдневяковага светапогляду; абгрунтаванне прынцыпу буржуазнага індывідуалізму; узаемадзеянне і ўзаемаўплыў беларускай, рускай, украінскай, літоўскай і польскай духоўных культур; наяўнасць на працягу пэўнага часу ў грамадска-рэлігійным жыцці адноснай верацярпімасці; патрыятычную і асветніцка-дэмакратычную арыентацыю шэрагу дзеячаў і мысліцеляў эпохі Адраджэння; большую залежнасць гарадоў ад феадалаў і інш.[2]

На наш погляд, значнай увагі заслугоўвае тая адметная тэндэнцыя (асаблівасць) эпохі Адраджэння і развіцця палітычнай і прававой думкі Беларусі, што яе інтэлектуальная эліта абапіралася і вяла сваю палітыка-прававую дзейнасць шмат у чым з улікам пераасэнсавання і выкарыстання ў адпаведнасці з патрабаваннямі сучаснага ёй грамадства дасягненняў і ідэй эпохі Антычнасці, а таксама замацавання гэтых ідэй у заканадаўстве ВКЛ. Падобную думку выказваў і С. А. Падокшын, калі пісаў, што значную

ролю ў фарміраванні элементаў юрыдычнага светапогляду на айчыннай глебе адыгралі антычныя палітычныя вучэнні (Платон, Арыстоцель, Цыцэрон), якія пераасэнсоўваліся Л. Сапегам, А. Воланам і іншымі дзеячамі Беларусі і Літвы[3].

Асаблівасць Адраджэння і ў тым, што на беларускіх землях перакрыжоўваліся, як мы ўжо адзначалі, два магутныя рэлігійныя патокі – праваслаўнага Усходу і каталіцкага Захаду, што працягвала накладваць свой адбітак на культуру, у тым ліку і на развіццё палітычнай і прававой думкі.

Па нашаму меркаванню, яшчэ адной адметнай тэндэнцыяй (асаблівасцю) эпохі Адраджэння і развіцця палітычнай і прававой думкі ў Беларусі ў XVI ст. з'яўляецца яе гуманістычны рух.

Найбольш поўна ідэямі гуманізму была прасякнута творчая і грамадска-палітычная дзейнасць Ф. Скарыны, для якога на першы план выступаюць інтарэсы свайго народа і Айчыны, пачуццё абавязку перад радзімай[4]. Таксама Ф. Скарына звязваў паняцце справядлівасці не толькі з чалавекалюбствам, але і з любоўю да сваёй роднай беларускай мовы і да сваёй Радзімы, бо калі чалавек любіць сабе падобных, любіць і шануе тое месца, дзе ён нарадзіўся, і тую мову, на якой размаўлялі яго продкі, то гэта і ёсць не што іншае, як справядлівасць не толькі ў духоўным, але і ў палітыка-прававым кантэксце. Таксама вялікі ўклад у распаўсюджанне прагрэсіўных ідэй у Беларусі ўнеслі М. Гусоўскі і М. Літвін.

На нашу думку, асаблівай увагі заслугоўвае рэфармацыйны рух, які з'яўляецца яшчэ адной істотнай асаблівасцю ў развіцці палітычнай і прававой думкі Беларусі XVI ст.

Вучоныя, якія даследуюць перыяд Рэфармацыі ў Беларусі, адзначаюць, што яна была звязана з росквітам усіх сфер грамадскага жыцця, у тым ліку і з росквітам палітычнай і прававой думкі. Ідэолагі Рэфармацыі ў Беларусі былі выразнікамі шырокага сацыяльна-палітычнага і ідэалагічнага руху, накіраванага супраць Рымска-каталіцкай царквы і яе ролі ў палітычнай сістэме грамадства. Яны абапіраліся на ідэі гуманізму і сярэдневяковыя ерасі. Адно з галоўных месцаў у ідэалогіі Рэфармацыі займала ідэя пра тое, што для выратавання душы верніка не патрабуецца пасрэдніцтва царквы з усёй іерархіяй на чале з папам рымскім[5].

Як адзначае прафесар В. Ф. Шалькевіч, рэфармацыйны рух праявіўся ў ВКЛ галоўным чынам у формах лютэранства, кальвінізму і арыянства (антытрынітарызму)[6]. Навукоўца В. У. Старасценка прытрымліваецца такой жа думкі[7]. У «Вялікай энцыклапедыі» гаворыцца, што акрамя лютэранства і кальвінізму на землях ВКЛ з'явілася вялікая колькасць рэлігійных груповак крайняга напрамку, з якіх вядучую ролю іграла секта антытрынітарыяў (унітарыяў) або сацыніян[8].

На думку прафесара В. Ф. Шалькевіча, пачатак Рэфармацыі на беларускіх землях звязаны з распаўсюджаннем лютэранскіх ідэй. Першым значным прадстаўніком лютэранства ў Беларусі ён лічыць Аўраама Кульву[9]. Навукоўцы В. Ф. Шалькевіч, І. У. Вішнеўская ўказваюць, што ў аснове лютэранскіх ідэй ляжыць прынцып «чыя дзяржава, таго і вера», які азначае адмаўленне ад вяршэнства царкоўнай улады (рымскага папы), перадача яе ў рукі свецкіх князёў і каралёў і, як вынік, станаўленне абсалютызму. Але акцэнт на станаўленне моцнай свецкай (манархічнай) улады не задавальняў шляхецкае саслоўе ВКЛ і гэта аказала ўплыў на распаўсюджанне тут ідэй лютэранства[10].

Шырокае распаўсюджанне ў ВКЛ атрымаў кальвінізм. Прафесар І. А. Басюк адзначае, што ён нёс дэмакратычныя і рэспубліканскія ідэі. Асабліва цікавай, на яго думку, была ідэя, згодна з якой кожная дзяржава магла мець сваю незалежную рэспубліканскую царкву[11]. І. У. Вішнеўская, у сваю чаргу, сцвярджае, што для кальвінізму былі характэрны прынцыпы дэмакратызму, таксама секулярызацыя маёмасці каталіцкай царквы, стварэнне таннай царквы, набажэнства на роднай мове і інш. На яе думку, менавіта кальвінізм бачыўся эліце ВКЛ як своеасаблівы бар'ер маскоўскаму праваслаўнаму і польскаму каталіцкаму ўплывам (спроба стварэння нацыянальнай царквы)[12].

А. Валовіч і М. Радзівіл Чорны з'яўляліся прадстаўнікамі кальвінізму. В. Ф. Шалькевіч называе М. Радзівіла Чорнага галоўным ініцыятарам распаўсюджання кальвінізму ў Беларусі і Літве[13]. Навукоўца піша, што М. Радзівіл Чорны заяўляў: «Не папы і біскупы, а каралі і князі павінны быць апекунамі царквы»[14]. У той жа самы час М. Радзівіл Чорны выступаў супраць канцэнтрацыі абсалютнай свецкай улады ў руках манарха, бо сам з'яўляўся прыхільнікам перанясення рэспубліканскіх і дэмакратычных прынцыпаў уладкавання кальвінісцкіх абшчын на дзяржаву. Ён разглядаў кальвінізм як тэарэтычную аснову рэфармавання дзяржаўнага ладу ВКЛ і Польшчы ў напрамку шляхецкай дэмакратыі, якая ў канечным выніку ўсталявалася тут у другой палове XVI ст. А. Валовіч вялікае значэнне надаваў катэгорыі свабоды, лічачы, што кожны чалавек мае права ў поўнай ступені распараджацца ёю згодна са сваімі меркаваннямі. Пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца яго ўчынак напрыканцы свайго жыцця. Ён выдаў тэстамент (завяшчанне), якім дараваў волю ўсім нявольнікам сваіх маёнткаў[15]. А. Валовіч і М. Радзівіл Чорны выступалі супраць Люблінскай уніі 1569 г., былі прыхільнікамі незалежнасці ВКЛ і актыўна праводзілі палітыку абароны яго дзяржаўнага суверэнітэту, што праявілася ў Статутах ВКЛ 1566 і 1588 гг.

Найбольш значным прадстаўніком кальвінізму ў Беларусі і Літве быў А. Волан. Як адзначае прафесар Т. І. Доўнар, А. Волан быў філосафам, правазнаўцам і палітычным дзеячам, які з'яўляўся адным з ідэолагаў рэфармацыйнага руху ў Беларусі. Ён стаў адным з заснавальнікаў свецкага кірунку ў сацыяльна-палітычнай і прававой думцы[16]. Прававая і палітычная дзейнасць А. Волана засноўвалася на трох катэгорыях: свабодзе, роўнасці і справядлівасці, якія і сёння з'яўляюцца першапачатковымі кірункамі пры будаўніцтве дэмакратычных дзяржаў і развіцці іх прававых сістэм. Ён сцвярджаў, што права павінна быць справядлівым, выступаць гарантам свабоды і роўнасці, быць разумным. А. Волан

адстойваў ідэю роўнасці перад законам прадстаўнікоў усіх саслоўяў і лічыў, што менавіта роўнасць людзей перад законам, яе ўвасабленне ў палітычным жыцці вызначаюць дасканаласць дзяржавы. Сугучнасць гэтай думкі можна знайсці ў Статуце ВКЛ 1588 г. (раздз. I, арт. 1). Мысліцель таксама вылучаў прыярытэт справядлівасці з усіх астатніх дабрадзейнасцяў[17].

Навукоўцы С. В. Казуля, Г. Я. Галенчанка, І. Г. Ганчарук, А. А. Гарбацкі, С. В. Марозава, А. М. Філатава, В. В. Яноўская, С. А. Яцкевіч, Г. У. Грушавы, В. Ф. Шалькевіч і С. А. Падокшын адзначаюць, што ў XVI ст. у руху антытрынітарыяў у Беларусі ўтварылася два кірункі: памяркоўны і радыкальны (правае (шляхецка-бюргерскае) і левае (плябейска-сялянскае) крылы)[18].

Даследчыкі С. А. Яцкевіч, Г. У. Грушавы і В. Ф. Шалькевіч да прадстаўнікоў памяркоўнага кірунку антытрынітарыяў адносілі С. Буднага і В. Цяпінскага[19]. Апошні з навукоўцаў дабаўляў у лік прадстаўнікоў памяркоўнага кірунку антытрынітарыяў Я. Кішку[20]. Вучоныя С. А. Яцкевіч, Г. У. Грушавы, С. А. Падокшын і В. Ф. Шалькевіч адзначалі, што радыкальны кірунак антытрынітарыяў прадстаўлялі Якуб з Калінаўкі, Пётр з Генёндза, Павел з Візны, М. Чаховіц[21]. В. Ф. Шалькевіч адносіў яшчэ да іх ліку і Л. Крышкоўскага[22], а С. А. Падокшын указваў, што ідэолагамі радыкальнага кірунку антытрынітарыяў былі таксама Г. Павел, Л. Крышкоўскі, Я. Немаеўскі[23].

Як заўважыў прафесар В. Ф. Шалькевіч, для прадстаўнікоў памяркоўнага напрамку антытрынітарыяў (Я. Кішка, С. Будны, В. Цяпінскі) характэрна пазіцыя, згодна з якой шляхта магла валодаць маёнткамі, мець прыгонных сялян, карыстацца вынікамі іх працы, толькі адносіны паміж шляхтай і прыгоннымі не павінны былі выходзіць за рамкі хрысціянскай маралі. Што тычыцца іх адносін да дзяржавы, то яны сцвярджалі, што іх прыхільнік павінен плаціць падаткі, можа займаць дзяржаўныя пасады, выконваць воінскі абавязак і нават прымаць удзел у вайне, калі яна носіць справядлівы (абарончы) характар[24].

Па меркаванню прафесара І. А. Басюка, прадстаўнікі радыкальнага кірунку антытрынітарыяў (у прыватнасці, П. Гезка, М. Чаховіц, Л. Крышкоўскі, Якуб з Калінаўкі, Павел з Візны) выступалі супраць занявольвання простых людзей, прыгоннага ладу, смяротнага пакарання, адмоўна ставіліся да дзяржавы і яе апарату, лічылі, што сапраўдны хрысціянін не можа займаць ніякія дзяржаўныя пасады, валодаць маёмасцю, прыгоннымі сялянамі, прымаць удзел у войнах. Іх ідэалогія была арыентавана на шырокія народныя масы (у асноўным на простых сялян). Ідэолагі радыкальнага кірунку антытрынітарыяў сцвярджалі, што дзейнічаць трэба мірным шляхам, але не выключалі і рэвалюцыйных метадаў барацьбы. Разам з тым яны лічылі, што хрысціяне павінны плаціць падаткі, бо Хрыстос даў запавет аддаваць «кесарава кесару, а Божае Богу»[25].

На нашу думку, ідэйная аснова поглядаў радыкальнага кірунку антытрынітарыяў з'яўлялася ўтапічнай, кансерватыўнай, не прыстасаванай да рэалій грамадска-палітычнага жыцця і была прадвызначана на выміранне, асабліва ва ўмовах тых абставін, у якіх знаходзілася ВКЛ у XVI ст. (пагроза яе суверэнітэту з боку Польшчы, Маскоўскай дзяржавы і інш.).

Такім чынам, у развіцці палітычнай і прававой думкі XVI ст. выявілася яшчэ адна тэндэнцыя, звязаная з яе ўзбагачэннем шляхам узнікнення і развіцця розных плыняў рэфармацыйнага руху з іх разнастайнымі ідэямі і поглядамі іх прадстаўнікоў. Гэта садзейнічала прагрэсіўнаму мысленню інтэлектуальнай эліты, бо менавіта дзякуючы ідэйнаму плюралізму можна было якасна вырашыць тыя пытанні, што стаялі перад тагачасным грамадствам і дзяржавай.

Нельга не сказаць і пра Л. Сапегу, з імем якога звязана падрыхтоўка і выданне Статута ВКЛ 1588 г. Грамадска-прававыя погляды Л. Сапегі значна паўплывалі на змест гэтага Статута. Пры яго выданні Л. Сапега змясціў як прадмовы да Статута «Прысвячэнне» і «Зварот», дзе абгрунтаваў неабходнасць гэтага новага збору законаў. Таксама ў гэтых прадмовах ім была сфармулявана канцэпцыя прававой дзяржавы: «Обачывали то усих веков люди мудрые, же в кождой речы посполитой чоловеку почстивому ничого не маеть быти дорожшого над вольность» – менавіта такімі словамі пачынаецца «Зварот»[26]. Абараняючы сваю свабоду, людзі не шкадавалі не толькі маёмасці, але і ўласнага жыцця. Л. Сапега лічыў, што асноўная задача кожнага грамадства – гарантаваць чалавеку бяспечнае матэрыяльнае і духоўнае жыццё, абароненае валоданне маёмасцю згодна з яго саслоўным статусам[27].

Статуты Вялікага Княства Літоўскага вывучалі прафесары Ф. І. Леантовіч, І. І. Лапо, Т. І. Доўнар, Я. А. Юхо і шмат іншых даследчыкаў. Усе яны адзначалі, што найбольш прагрэсіўныя ідэі таго часу былі замацаваны ў нормах Статутаў ВКЛ, асабліва ў Статуце ВКЛ 1588 г.: прававы суверэнітэт дзяржавы, прынцыпы законнасці, справядлівасці, вяршэнства права, незалежнасць судоў ад адміністрацыі, прэзумпцыя невінаватасці і шмат іншых ідэй. Усе тры Статуты ВКЛ з'яўляюцца выдатнымі помнікамі палітычнай і прававой думкі Беларусі XVI ст. Хочацца асобна адзначыць, што яны былі выдадзены на старабеларускай мове. Прававая культура жыхароў ВКЛ знаходзілася на высокім узроўні, што садзейнічала больш актыўнаму ўкараненню прагрэсіўных ідэй эпохі Адраджэння, фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці і развіццю палітычнай і прававой думкі Беларусі.

Трэба адзначыць, што ўвогуле ідэолагі Рэфармацыі паспрыялі развіцццю асноўных актуальных тагачасных прававых, палітычных, сацыяльных і іншых праблем адносна прынцыпаў дзяржаўнага кіравання і жыцця, абароны суверэнітэту, суадносін свецкай і духоўнай улад, ролі закона, свабоды, справядлівасці і маралі ў грамадстве. Увогуле Рэфармацыя паўплывала на палітычную і прававую думку, на свядомасць чалавека і змяніла ў больш прагрэсіўным кірунку светапогляд усяго грамадства. Аб гэтым яскрава сведчаць нормы, якія потым у выніку такога ўплыву былі замацаваны ў Статутах

ВКЛ 1566 і 1588 гг. Такім чынам, у той час быў закладзены падмурак для фарміравання і станаўлення сучаснай дэмакратычнай прававой сістэмы Беларусі з улікам прагрэсіўных ідэй Рэфармацыі, якія былі адлюстраваны ў палітычнай і прававой думцы XVI ст. (гуманізм, свабода, справядлівасць, роўнасць людзей перад законам, дзяржаўны суверэнітэт і яго абарона, рэлігійная свабода і талерантнасць, патрыятызм, неад’емныя правы чалавека (права на жыццё, права на ўласнасць і інш.), прэзумпцыя невінаватасці, паступовае аддзяленне палітычнай і прававой думкі ад царкоўнай ідэалогіі і шэраг іншых ідэй). Узнікненне і ўплыў гэтых прагрэсіўных ідэй на грамадства і дзяржаву стала шмат у чым вызначальнай тэндэнцыяй у развіцці палітычнай і прававой думкі Беларусі ў XVI ст.

Рашучае выступленне прадстаўнікоў радыкальнага кірунку антытрынітарыяў рэзка змяніла адносіны шляхты і магнатаў да Рэфармацыі. Яны ў такой ступені былі напалоханы падтрымкай рэвалюцыйных ідэй радыкалаў народнымі масамі, што пачалі хутка і пакорліва вяртацца ў лона каталіцкай царквы. Такім чынам, у апошняй чвэрці XVI ст. у Беларусі пачынаецца новы рэлігійна-палітычны рух – Контррэфармацыя[28]. Найбольш актыўна і паспяхова яна супрацьдзейнічае Рэфармацыі ў XVII ст., што адпаведна аказвае свой уплыў на развіццё палітычнай і прававой думкі Беларусі XVII ст.

Такім чынам, у развіцці палітычнай і прававой думкі Беларусі XVI ст. можна вылучыць наступныя тэндэнцыі.

1. Беларуская інтэлектуальная эліта (выразнікі палітычнай і прававой думкі) эпохі Адраджэння абапіралася і вяла сваю палітыка-прававую дзейнасць шмат у чым з улікам пераасэнсавання і выкарыстання ў адпаведнасці з патрабаваннямі сучаснага ёй грамадства дасягненняў (ідэй) эпохі Антычнасці, а таксама замацавання гэтых ідэй у заканадаўстве ВКЛ.

2. Назіралася ўзбагачэнне палітычнай і прававой думкі Беларусі разнастайнымі ідэямі і поглядамі прадстаўнікоў гуманістычнага і рэфармацыйнага рухаў, а таксама ўзнікненнем і развіццём у межах апошняга яго формаў (лютэранства, кальвінізму, антытрынітарызму). Гэта садзейнічала прагрэсіўнаму мысленню інтэлектуальнай эліты, бо менавіта дзякуючы ідэйнаму плюралізму можна было якасна вырашаць тыя пытанні, якія стаялі перад тагачасным грамадствам і дзяржавай.

3. У палітыка-прававой думцы Беларусі XVI ст. была закладзена аснова для пабудовы сучаснай дэмакратычнай прававой дзяржавы з яе развітой прававой сістэмай. Гэта стала магчыма дзякуючы ўзнікненню шматлікіх прагрэсіўных палітычных і прававых ідэй і іх уплыву на грамадства і дзяржаву (асноўнай крыніцай такіх ідэй з’яўляліся Статуты ВКЛ 1529, 1566 гг., і асабліва Статут ВКЛ 1588 г.).

4. Прагрэсіўныя палітычныя і прававыя ідэі Беларусі выказваліся на беларускай мове праз друкаванне іх у тагачасных помніках права, што садзейнічала фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці ў жыхароў ВКЛ (большую частку якіх складалі беларусы).

5. Выдатныя прадстаўнікі эпохі Адраджэння з’яўляліся носьбітамі і праваднікамі прагрэсіўных ідэй палітычнай і прававой думкі Беларусі праз сваю дзейнасць і творы. Напрыклад, Ф. Скарына актуалізаваў ідэі гуманізму, справядлівасці, патрыятызму, М. Радзівіл Чорны – незалежнасці, суверэнітэту дзяржавы, дзяржаўнага ўладкавання на рэспубліканскіх прынцыпах, А. Валовіч – свабоды, незалежнасці і суверэнітэту дзяржавы, Л. Сапега – свабоды, неад’емных правоў чалавека (права на жыццё, на ўласнасць), А. Волан – справядлівасці, свабоды, роўнасці людзей перад законам.

6. Адлюстраванне ў палітычнай і прававой думцы Беларусі палітыка-прававых ідэй (поглядаў), якія ў многім апярэджвалі свой час і, як вынік, адпавядалі высокаму еўрапейскаму ўзроўню. У ёй былі закладзены асновы, дзякуючы якім яна атрымала імпульс для свайго далейшага развіцця на шмат стагоддзяў наперад.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


[1] Гл.: Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. Мінск, 2001. Т. 6, кн. 1. С. 177.

[2] Гл.: Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. Мінск, 2001. Т. 6, кн. 1 ; Вішнеўская І. У. Палітычная і прававая думка Беларусі на мяжы еўрапейскіх цывілізацый (IX – пачатак XXI стст.) : манаграфія. Мінск, 2008 ; Басюк І. А. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі : курс лекцый. Гродна, 2011 ; Шалькевіч В. Ф. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. Мінск, 2002 ; Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі : у 6 т. Т. 2. Протарэнесанс і Адраджэнне / С. І. Санько [і інш.]. Мінск, 2010.

[3] Гл.: Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі : у 6 т. Т. 2. Протарэнесанс і Адраджэнне / С. І. Санько [і інш.]. Мінск, 2010. С. 349.

[4] Гл.: Шалькевіч В.Ф. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. Мінск, 2002. С. 56–57.

[5] Гл.: Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. Мінск, 2001. Т. 6, кн. 1. С. 177.

[6] Гл.: Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор. С. 75.

[7] Гл.: Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі. С. 507.

[8] Гл.: Большая энциклопедия : словарь общедоступных сведений по всем отраслям знаний : в 22 т. / под ред. С. Н. Южакова. СПб., 1900–1909. Т. 16 : Пуль – Саль / С. Н. Южаков. 1904. С. 291.

[9] Гл.: Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор.

[10] Гл.: Вішнеўская І. У. Палітычная і прававая думка Беларусі на мяжы еўрапейскіх цывілізацый (IX – пачатак XXI стст.) : манаграфія. Мінск, 2008. С. 47 ; Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор. С. 76.

[11] Гл.: Басюк І. А. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі : курс лекцый. Гродна, 2011. С. 66.

[12] Гл.: Вішнеўская І. У. Пазнач. твор. С. 47.

[13] Гл.: Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор. С. 76.

[14] Там жа. С. 77.

[15] Гл.: Асветнікі зямлі Беларускай : энцыкл. даведнік. Мінск, 2001. С. 86.

[16] Гл.: Доўнар Т. І. Андрэй Волан (Волян) – беларускі філосаф і правазнаўца XVI стагоддзя // Юстыцыя Беларусі. 2012. № 8. С. 75 ; Гісторыя і сучаснасць: беларуская дзяржаўнасць ва ўсходнееўрапейскім цывілізацыйным кантэксце : зб. навук. прац,

прысвеч. 90-годдзю з дня нараджэння праф. І. А. Юхо. Мінск, 2012. С. 40.

[17] Гл.: Памятники философской прогрессивной мысли Белоруссии XVI – первой половины XVIII веков / В. В. Дубровский [и др.] ; под ред. В. В. Дубровского. Минск, 1991. С. 49.

[18] Гл.: Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор. С. 82 ; Вялікае княства Літоўскае : энцыкл. : у 2 т. Мінск, 2005–2006. Т. 1 : Кадэцкі–Кадэнцыя / Г. П. Пашкоў [і інш.]. 2005. С. 118, 229 ; Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. Мінск, 1996–2004. Т. 1 : А – Аршын / Г. П. Пашкоў [і інш.]. 1996. С. 400–401 ; Рэлігія і царква на Беларусі : энцыкл. даведнік. Мінск, 2001. С. 17 ; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. Мінск, 1993–2003. Т. 1 : А – Беліца / М. В. Біч [і інш.]. 1993. С. 131 ; Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Вторая половина XVI – XVII в. Минск, 1970. С. 82.

[19] Гл.: Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор ; Вялікае княства Літоўскае : энцыкл. : у 2 т. Мінск, 2005–2006. Т. 1 : Кадэцкі–Кадэнцыя / Г. П. Пашкоў [і інш.]. 2005. С. 229 ; Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. Мінск, 1996–2004. Т. 1 : А – Аршын / Г. П. Пашкоў [і інш.]. 1996. С. 400–401 ; Рэлігія і царква на Беларусі : энцыкл. даведнік. Мінск, 2001. С. 17 ; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. Мінск, 1993–2003. Т. 1 : А – Беліца / М. В. Біч [і інш.]. 1993. С. 131.

[20] Гл.: Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор.

[21] Гл.: Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор ; Вялікае княства Літоўскае : энцыкл. : у 2 т. Мінск, 2005–2006. Т. 1 : Кадэцкі–Кадэнцыя / Г. П. Пашкоў [і інш.]. 2005. С. 229 ; Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. Мінск, 1996–2004. Т. 1 : А – Аршын / Г. П. Пашкоў [і інш.]. 1996. С. 400–401 ; Рэлігія і царква на Беларусі : энцыкл. даведнік. Мінск, 2001. С. 17 ; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. Мінск, 1993–2003. Т. 1 : А – Беліца / М. В. Біч [і інш.]. 1993. С. 131 ; Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Вторая половина XVI – XVII в. Минск, 1970. С. 82.

[22] Гл.: Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор.

[23] Гл.: Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Вторая половина XVI – XVII в. Минск, 1970. С. 82.

[24] Гл.: Шалькевіч В. Ф. Пазнач. твор.

[25] Цыт. па: Басюк І. А. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі : курс лекцый. Гродна, 2011. С. 71.

[26] Гл.: Доўнар Т. І. Канстытуцыйнае права Беларусі феадальнага перыяду (па Статутах Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гг.) : вучэб. дапам. Мінск, 2001. С. 44–46.

[27] Гл.: Падокшын С. А. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мінск, 2003. С. 276.

[28] Гл.: Вішнеўская І. У. Палітычная і прававая думка Беларусі на мяжы еўрапейскіх цывілізацый (IX – пачатак XXI стст.) : манаграфія. Мінск, 2008. С. 57.

Паступіў у рэдакцыю 24.10.2013.

***Дзмітрый Сяргеевіч Жук*** – аспірант кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права. Навуковы кіраўнік – кандыдат юрыдычных навук, дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Л. Л. Голубева.

*УДК 342.7*

*В. Н. КИВЕЛЬ*

## ПОНЯТИЕ ПРАВОВОГО СТАТУСА ЛИЧНОСТИ: ВОПРОСЫ ТЕОРИИ

Рассматривается понятие «правовой статус личности», которое в юридической науке исследовано достаточно широко. Однако общепринятое мнение о законченности формулировки правового статуса личности отсутствует. Приводятся определения правового статуса личности различными исследователями. На основе анализа научной литературы автор показывает свое видение понятия «правовой статус личности».

***Ключевые слова:*** правовой статус; правовое положение; структура правового статуса; гражданство; права человека и гражданина; обязанность; правосубъектность; ответственность; гарантии.

The scientific article presents the concepts of personal legal status. The issues of personal legal status are extensively studied in legal science. However, there's no consensus of opinion on the final definition of personal legal status. The authors give various definitions of personal legal status and try to prove their point of view on this issue. V. N. Kivel analyzes various sources on this subject and presents his vision of the concept of personal legal status.

***Key words:*** legal status; legal status structure; legal nationality; human and civil rights; responsibility; juridical personality; obligation.

Вопросы понятия правового статуса личности в правовой науке исследованы достаточно широко. Вместе с тем нет общепринятого мнения о законченности формулировки правового статуса личности. Авторы дают различные определения правового статуса личности и пытаются доказать свою точку зрения по данному вопросу.

Мы поддерживаем мнение, высказанное в правовой литературе о том, что правовой статус личности в широком контексте рассматривается как теоретическая конструкция наряду с такими понятиями, как правовая система, правоприменение и т. д., входящими в предмет юридической науки, создаваемыми в ходе научного познания социальной действительности соответствующими методами[1]. Прежде чем перейти к понятию правового статуса человека, необходимо обратить внимание на соотношение терминов «правовое положение» и «правовой статус». По мнению ряда ученых, первое понятие является более широким, чем второе. Правовое положение конкретной личности включает (наряду с распространяющимися на нее статутными правами и обязанностями) еще и субъективные правовые элементы – гражданство, правосубъектность, субъективные права, обязанности, ответственность за возможно совершенное правонарушение[2]. Другие авторы считают, что понятия «правовое положение» и «правовой статус» личности равнозначны. Во всяком случае, законодательство, юридическая практика, печать, а также международные акты о правах человека не проводят между ними какого-либо различия, а употребляют в одном и том же смысле[3]. По мнению советского исследователя Б. В. Пхаладзе, «определяя основы правового положения гражданина, государство неизбежно отвлекается от конкретных право-